Oplatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 15. Вільня, Субота, 21-га лютага 1925 г. Год I.

У гэтым нумары 6 страніц.

## Рэчы „вялікія" і „малыя".

Польскія газэты пераказуюць зьмест выступленьняў англійскіх газэт, якія вельмі балюча для Польшчы стаўляюць справу забясьпечаньня міру ў Эўропе.

Ведама, справа тут ідзе аб міры толькі паміж вялікімі дзяржавамі, да якіх Англія Польшчы не залічае. I вось — дзеля такое „вялікае рэчы" — Англія гатова ахвяраваць „рэч малую": Польшчу.

Зусім таксама разважала і Польшча ў асобе п. Пілсудскага, які на банкеце ў Вільні летась заявіў, што Польшча — гэта „рэч вялікая", Беларусь — „рэч малая", дык ён, Пілсудскі, быў прымушаны гэную „малую рэч" прынесьці ў ахвяру „рэчы вялікай"....

Як-жа падыходзяць да пытаньня аб міры англійскія палітыкі?

Вось, як формулуе іх пагляды „Gaz. Warsz.".

„У апошнім нумары лёнданскага тыднёвіка „Observer" рэдактар гэтае часопісі, п. Гарвін, вярачэецца да справы перагляду тэрыторыяльных пастановаў Вэрсальскага Трактату і высказывае пагляд, што *канешным варункам міру* зьяўляецца *зьмена дзяржаўных граніц на Усходзе Эўропы*. Ніякія гарантыі і пратаколы не забясьпечаць міру, калі на дзеле будуць істнаваць падставы да канфліктаў. Дзеля недапушчэньня да канфліктаў ён мае вельмі просты спосаб: вярнуцца да перадваеннага стану і даць Нямеччыне яе даўнейшыя граніцы на ўсходзе. Калі Горны Сьлёнск, Паморые і Пазнань будуць аддадзены немцам,—думае сабе п. Гарвін,—дык у іх ня будзе ніякае прычыны імкнуцца да рэваншу, бо з утратай Эльзасу і Лётарынгіі яны напэўна пагодзяцца".

„П. Гарвін—піша далей „Gaz. Warsz." — зусім не адзінокі ў Англіі. У тым самым больш-менш духу піша сацыялістычны тыднёвік „New Statesman", таксама думаў п. Мак-Дональд, а з ім кіраўнікі „Labour Party", дый гэткія-ж пагляды пануюць у некаторых англійскіх радыкальных кругах".

Успомнены ў „Gaz. Warsz." тыднёвік „New Statesman" зусім выразна піша, што Англія бязумоўна ня толькі не ўмяшаецца ў вайну Нямеччыны з Польшчай, але ня дасьць помачы і сваей саюзьніцы Францыі, калі б тая распачала вайну з Нямеччынай з прычыны жаданьня апошняе „*паправіць свае цяперашнія граніцы з Польшчай*".

Але гэтых заяваў англійскіх палітыкаў—мала. „Słowo" адзначае другую пагрозу інтарэсам Польшчы—*з боку Францыі*! Як ведама ўжо нашым чытачом, паміж Францыяй і Нямеччынай ідуць перагаворы аб наладжаньні эканамічна-гаспадарчых адносінаў, і з газэтых паведамленьняў аб гэтым „Słowo" робіць такі вывад:

„З усяго гэтага выглядае, што 1) паміж Францыяй і Нямеччынай у хуткім часе створыцца гаспадарчая ўмова, і 2) дагэтуль няма ніякіх канкрэтных даных, якія далі-б магчымасьць думаць, што інтарэсы Польшчы не пацерпяць пры гэтай умове".

Як відаць, і Францыя глядзіць на Польшчу, як на „рэч малую", раўнуючы яе з сваімі ўласнымі інтарэсамі....

Ці ня варта было-б Польшчы пакінуць ганяцца за „рэчамі вялікімі" ды падумаць аб уладжаньні сваіх адносінаў з „рэчамі малымі", з якімі яе *зраўнялі ўжо* вялікія дзяржавы?

**Пасьля нашага звароту да неакуратных падпішчыкаў пачаўся значны наплыў належных ад іх грошы. Калі нашы даўжнікі ўсе споўняць свой абавязак, дык у хуткім часе здолеем узнавіць нармальны выхад нашае газэты.**

**Чытачы! Ад вас залежыць прысьпешыць гэты мамэнт!**

**Калі аднаму не пад сілу аплаціць падпіску, складайцеся грамадой і будзеце меці газэту дзеля агульнага карыстаньня.**

**РЭДАКЦЫЯ.**

## Палітычная эвалюцыя Польшчы.

Запраўды няма, відаць, таго чалавека ў Польшчы, які-бы з спакойным сумленьнем і напэўна мог сказаць,—чаго больш прыносяць Польшчы „Крэсы": карысьці, ці шкоды... ці яны—дабро для Польшчы, ці зло; ці яны патрэбны, каб адратаваць Польшчу ад пагражаючых ёй небясьпек, ці, наадворот, каб загубіць яе...

„Крэсавая" праблема — у першым яе вырашэньні маршалкам Пілсудскім—ужо амаль не давяла да гібелі Польшчы,—у кожным выпадку паставіла дзяржаву на край фінансавага банкруцтва, ад якога лячэньне трывае дагэтуль.—Але гэтая „санацыя" фінансаў, у сувязі з спадчынай па фінансавай палітыцы, што была пабудавана на блуднай і шкоднай фінансавай „пухліне" (інфляцыі), пагражае цяпер амаль не сьмяротным эканамічным крызісам... ці і як выйдзе з яго Польшча, яшчэ вельмі вялікае пытаньне.. А калі ізноў зусім шчыра і паважна запытацца аб першай і галоўнай прычыне ўсіх гэтых амаль не аднолькава пагражаючых здароўю дзяржавы—інфляцыяў і санацыяў, дык на гэта можна адказаць адным словам: „Крэсы"...

Польшча + „Крэсы" — вось гэта і ёсьць тая „wielkomocarstwowa", але і вельмі—не па кішані!—каметоўная палітыка, якая, адразу зьмілітарызаваўшы маладую дзяржаву, губіць яе фінансава эканамічна.

---

Але „Крэсы" губяць здароўе Польшчы яшчэ і тысячай іншых шляхаў і мэтадаў..

Фінансавы алярм легалізаваў фінансавую дыктатуру ўраду Грабскага (вынятковыя паўнамоцтвы П. Прэзыдэнта). На дзеле-ж гэтая дыктатура даўно ўжо выйшла далёка па-за межы адных толькі фінансаў. Бо, калі гэтыя вынятковыя паўнамоцтвы былі вынікам няздарнасьці польскага парляманту, дык, атрымаўшы на гэтай фактычнай падставе яшчэ і юрыдычную сілу—актам частковага самаадрачэньня ці самазабойства парляманту, гэтыя „вынятковыя паўнамоцтвы" ў значнай меры давялі да такога „вынятковага стану", які трэба назваць, калі ня крахам, ці банкруцтвам, дык ужо зусім выразным „прыпыненьнем" ці „zawieszeniem" парлямантарызму ў Польшчы...

Аднолькава бяздарныя і аднолькава безадказныя правіца і лявіца,—абедзьве ўжо скампрамітаваныя дарэшты,—ненавідзяць адна адну, баяцца браць ўладу ў свае рукі і галоўным чынам дзеля гэтага падтрымліваюць урад, які патроху ўсе больш разумеючы сваё палажэньне, ужо амаль не зьліквідаваў парлямантарызм (а мо' і парлямант!), ды пачаў ліквідаваць і рэшту канстытуцыі. I тут ізноў усё выйшла і пайшло з „Крэсаў"...

Як можна шанаваць у Польшчы парлямантарызм, калі ён прадстаўлены фактычна парлямантам, у якім адна пятая частка дэпутатаў, якія прадстаўляюць трацiну насяленьня і палову абшару дзяржавы, не палякі! Дык іх і ня лічаць паўнапраўнымі гаспадарамі краю... На гэтую роль закліканы „прыраджоныя гаспадары"—палякі... А калі гэткі **нацыянальны настрой** мацней за дзяржаўнае разуменьне, дык якое-ж дзіва, што і парляманту, а далей і канстытуцыі ўжо ўсё роўна, як няма... I ці-ж гэта ня так у Польшчы? Даволі толькі пераглядзець хаця-б справы аб выдачах Соймам паслоў, каб зразумець, што нават тут, у самым парляманце, ужо няма яго галоўнай падставы: няма констытуцыі, бо няма роўнасьці грамадзян... Дый ці можна сказаць, што ў краю істнуе парлямант, калі паслы ня маюць пасольскай нятыкальнасьці? Ці можна далей сказаць, што істнуе канстытуцыя, калі ў ей нарушаны ці скасаваны хаця-б адзін артыкул!? Бо-ж, калі, напрыклад, арт. 21 няма, дык няма і ўсей канстытуцыі!

Няма такога парляманту на сьвеце ў нармальным прававым гаспадарстве, які-б ня тое што раўнадушна, але бяз самых рэзкіх пратэстаў глядзеў на тое, як яго пазбаўляюць моцы і духу — сэнсу яго істнаваньня. Але ў Польшчы ўсім гэтае засланяюць сабой.. усё тыя-ж самыя „Крэсы"! „Крэсавыя" паслы—не паслы... Але тым самым—трэба-ж зразумець гэта!— і Сойм—не парлямант, і Польшча — не канстытуцыйная дзяржава!...

Польшча ўжо даўно ўсім гэтым паставіла ў „вынятковы стан", як сваю „канстытуцыю", так і свой „парламантарызм" і свой „парлямант"..

---

Дагэтуль усё гэтае неяк дзеялася хоць з фармальнага боку больш—менш „юрыдычна" — прызваіта.

Але вось за апошні тыдзень Польшча на шляху гэтага „вынятковага стану" зрабіла яшчэ новы рашучы і выразны крок, які ўжо зусім ня лічыцца з якімісь там „апарансамі" ці „конвэнансамі".. (прызваітасьцяй). Толькі што ў нас было надрукавана „напамненьне" дэлегата ўраду ў Віленшчыне аб тым, што, паводле абязываючых правілаў... генаральнага камісара Усходніх Зямель (Асмалоўскага) з дня 25 траўня 1919 г., а также закону 4 лютага 1921 і 6 красавіка 1923 (?) усялякія публічныя сабраньні, не выключаючы і вечаў, скліканых пасламі і сэнатарамі, могуць адбывацца толькі пасьля атрыманьня дазволу (zezwolenia) адміністрацыйнай улады...

Можна быць пэўным, што гэткага „напамненьня"—не зрабіў-бы п. дэлегат ураду бяз простага даручэньня самога ўраду.. Але гэтае „напамненьне", пазываючыся на „przepisy" генаральнага камісара з 1919 году і на закон 4 лютага 1921 г., само забываецца аб тым асноўным законе, які быў выданы пасьля гэтага — бо 17 сакавіка 1921 году....

Сэнс гэтага „напамненьня"—зусім ясны і выразны, бо зьяўляецца далейшым працягам таго „спыненьня" ці „скасаваньня крэсавага пасла", якое пачалося ў самым Сойме—аб чым мы казалі вышэй. Калі пасол траціць сваё значэньне і свой сэнс у Сойме, дык няма ў ім ані сэнсу, ані значэньня і на мясцох!... „Напамненьне" п. дэлегата якраз і рве тую сувязь, тыя ніці, якія зьвязываюць пасла з паслаўшымі яго „па Sejm"...

Паслы і Сэнатары Віленшчыны (а мо' ўжо і ўсюды на „Крэсах"?) робяцца падвойна бяссільнымі, бясэнсоўнымі і непатрэбнымі: бо, як у Сойме, так і на мясцох...

Праўда, кожны пасол Віленшчыны можа зра-

біць свой даклад выбаршчыкам, ня пытаючыся „дазволу“ адміністрацыі, але гэта ён можа зрабіць толькі шляхам асабістых візытаў і гутарак з кожным выбаршчыкам асобна... Калі на „Крэсах“ адзін дэпутат прыходзіцца ў сярэднім на 70—80 тысяч душ насяленьня, дык гэты шлях, хоць і лішне доўгі, але зусім магчымы... Да канца „кадэнцыі“—да новых выбараў можна яшчэ і скончыць...

Можна вельмі і вельмі многа йшчэ закінуць гэткаму, калі ня новаму, дык іншаму,—раўнуючы з канстытуцыяй 17 сакавіка, парадку „дазволеных адміністрацыяй“—замест забясьпечаных канстытуцыяй свабоды пасольскага і сэнатарскага слова і дэпутацкай сувязі з насяленьнем. Хаця-б і тое, што права пасла крытыкаваць адміністрацыю ператвараецца—у выніку гэтага „напамненьня“ заканстытуцыйных „przepisów“ — у права адміністрацыі ня толькі крытыкаваць пасла, але і выбіраць з іх усіх „найлепшага“, якому толькі, відаць, і будзе дадзена „zezwolenie“ зрабіць справаздаўчае сабраньне выбаршчыкаў. Зусім ясна, што усім, так сказаць, „ня вытрымаўшым гэтай крытыкі“ адміністрацыя ў дазволе адмовіць вельмі станоўча...

Але—усё гэта — дэталі, драбяза, якая зусім зьнікае і адыходзе на далейшы плян перад тым вялікім „дзяржаўным інтарэсам“, які ўжо „зрэдукаваў“, калі не „зьліквідаваў“, у Польшчы Парлямант, ды які зводзіць патроху „канстытуцыйны стан“ у Польшчы на стан „выняткові“... І, як заўсёды і ў-ва ўсім, гэты апошні, дэнатуруючы запраўдную нармальную дзяржаўнасьць у Польшчы, „стан“ ідзе ў Польшчу—ад „Крэсаў“..

---

Як можна было даведацца з варшаўскіх газэтаў, гэтае „напамненьне“ дэлегата ўраду— цыркуляр новага міністра ўнутраных спраў п. Ратайскага.

Але і на гэтым яшчэ не канчаецца ўнутраная палітычная эвалюцыя Польшчы — у выніку „санацыі“, ці лепш: **заражэньня** ад—„Крэсаў“.

Як у нас ужо пісалася, той-жа міністар унутраных спраў, п. Ратайскі, падаў у Раду міністраў, **а Рада Міністраў прыняла—праект закону аб выняткомым стане...**

Толькі-што ў адміністрацыйнай камісіі мін. Тугутт біўся з эндэкамі, тлумачучы непатрэбнасьць і шкоднасьць... калі не **„выняткоўага стану“** на Крэсах, дык прынамся—„вывескі“ з гэткім надпісам, зробленым Урадам і Соймам...

Але вось, сядзючы і ўрадуючы „ў зусім разных гмахах з п. Тугуттам“, міністар Ратайскі ўжо апрацаваў—на усялякі выпадак—праект якраз таго закону, які лічыў быццам шкодным „паўнамоцны міністар для Крэсаў“ п. Тугутт..

Гэта ня значыць, што прыняцьце гэтага закону ўжо тым самым **увядзе** выняткові стан і якраз на „Крэсах“. Не. Бо заканапраект павінен перад усім яшчэ прайсьці праз парлямант.. Але, калі ён (відаць, хутка..) пройдзе і станецца законам, тады на аснове яго—у выпадку патрэбы—паводле точнага сэнсу арт. 123 і 124 канстытуцыі—„для ўсьмірэньня разрухаў“ „пры пагрозе вайны або у разе ўнутраных разрухаў ці шырака рагаліненых „knowań“, маючых характар дзяржаўнай здрады“... будзе мець права ў любы мамэнт увясьці гэты выняткові стан—Рада Міністраў з дазволу Прэзыдэнта Рэспублікі...

А дзе-ж наагул можна сабе прадставіць усе тыя небясьпекі, аб якіх кажуць гэтыя арт. 123 і 124,—калі не на тых-жа „Крэсах“?!

І вось запраўды характэрна для палітычнай эвалюцыі Польшчы, што ніводнага з прадугледжаных у канстытуцыі „ўставаў“, якія забясьпечывалі нармальны праўны парадак і канстытуцыйныя гарантыі польскім грамадзянам, — дагэтуль урад у Сойм не падаў. Няма дагэтуль ніводнага закону — ні аб свабодзе прэсы, ні аб сабраньнях, ні саюзах,—дый ні аб чым, што дае выразныя **нармальныя** правы і прадугледжаную канстытуцыяй свабоду **грамадзянам**... Але вось ужо прыняты Радай Міністраў дзеля падачы ў Сойм устаў аб „выняткоўай“—**ненармальнай уладзе, якую павінна** атрымаць адміністрацыя **над грамадзянамі**, гэты устаў—ужо гатовы...

Дык, відаць, ня так ужо далёка адзін ад аднаго тыя „розныя гмахі“, у якіх быццам зусім асобна сядзяць і ўрадуюць паны віцэ-прэм'ер Тугутт і міністар унутраных спраў Ратайскі.

---

Уканцы—яшчэ адно „напамненьне“.

Як ведама, у [царск]ай Расеі выняткові стан, уведзены сьпярша на паўгоду, узнаўляўся... кожныя паўгоду і праістнаваў нешта больш 30 гадоў...

І вось дагэтуль яшчэ расейскія гісторыкі і палітыкі спрачаюцца і ня ведаюць напэўна: ці „ўнутраныя разрухі“ выклікалі прадаўжэньні выняткоўых станаў, ці—наадварот—выняткоўыя станы выклікалі і справакавалі гэтыя „разрухі“ і давялі да аканчальнай разрухі ўсей дзяржавы...

Можа, польскія палітыкі, ці гісторыкі будуць шчасьлівейшымі... **В.**

---

**Толькі тады адчыніцца беларуская ўрадовая школа або істнуючая польская школа перетварыцца ў беларускую, калі бацькі пададуць Школьнаму Інспэктару, як можна, больш дэклярацыяў (а на усякі выпадак ня меньш, як на 40 дзяцей).**

---

# Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

*(У 40-выя ўгодкі сьмерці яго).*

30-га сьнежня—на межах 1884 і 1885 гадоў памер адзін з найстарэйшых начальнікаў адраджэньня беларускае літэратуры, бацька беларускага тэатру, Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

У Усходняй Беларусі—у Менску—адбылося ўжо ўрачыстае паміначньне гэтага нашага пісьменьніка ў 40-ыя ўгодкі сьмерці яго. У нас толькі цяпер пастанавіла ўшанаваць ягоную памяць беларуская шольная моладзь, ставючы на сцэне ў мінулую суботу п'есу Марцінкевіча „Пінская шляхта“.

Запраўды, варт успаміну гэты „пан, што мужыкоў ня цураўся“, што прамаўляў ім да сэрца ў іх роднай „простай“ мове,—што справядліва лічыў сваей найвялікшай заслугай свае беларускія пісаньні, даступныя і па мове і па зьместу разуменьню беларускае сялянскае масы. Сам-жа ён гавора аб сабе ў „Шчэраўскіх дажынках“:



**Вінцук Дунін-Марцінкевіч.**

„Ен і кніжкі піша, песенькі сьпявае
Так вумны, што ўсякі мужык панімае!“

Марцінкевіч, родам з Меншчыны (з Бабруйскага пав.), радзіўся ў 1807 годзе і ўсё сваё жыцьцё правёў у роднай Беларусі. Пісаць пабеларуску пачаў не пазьней, як у пачатку 40-х гадоў,—значыцца, у той час, калі пачалі друкавацца беларускія зборнічкі песень Яна Чачота—у краю, калі ўжо выйшла заграніцай—у Парыжу—„Białoruś“ Рыпінскага, калі дэмакратычны рух буйна расцьвітаў на Захадзе, падгатаўляючы рэвалюцыйны 1848 год, так горача вітаны ў беларускім вершу Сыракомлі. І вось, ня гледзячы на пагардліва-варожыя адносіны да „мужыцкае“ літэратуры з боку вялізарнае большасьці тагочаснае польскае шляхоцкае інтэлігенцыі, ня гледзячы на няласку і нават перасьледаваньні (арышт) з боку расейскае ўлады, ня гледзячы, урэшце, на ідэйную спадчыну свайго шляхоцкага стану,—Марцінкевіч працуе ў працягу 30 гадоў на беларускай літэратурнай ніве, пішучы і выпускаючы ў сьвет беларускія паэтычныя творы.

„Гапон“, „Вечарніцы“, „Купальле“, „Шчэраўскія дажынкі“, а такжа драматычныя творы: „Сялянка“, „Пінская шляхта“, „Залёты“—усё гэта лішне добра ўсім вядомыя рэчы. Але мала таго, што Марцінкевіч *пісаў* пабеларуску: ён-жа *паклаў фундамант і для сучаснага беларускага нацыянальнага тэатру*, ставючы на менскай сцэне сваю „камэдыяопэру“ „Сялянку“ (музыка Ст. Манюшкі), у якой сам іграў ролю войта Навума Прыгаворкі. І гэты першы крок у будаваньні новага беларускага тэатру — новага, раўнуючы да старадаўных інтэрмэдыяў і п'есаў XVII і XVIII сталецьцяў,—мо шмат важнейшы, чым усе ягоныя вершы, хаця і вельмі папулярныя ў масах (—асабліва „Гапон“).

Дый сваім прыкладам, сваей асабістай прапагандай беларускае ідэі Марцінкевіч заваёўвае цэлы рад працаўнікоў дзеля гэтае ідэі. Ен—цэнтр усяго беларускага руху ў сярэдзіне XIX сталецьця, калі можна тагочасныя спробы адраджэньня беларускае літэратуры назваць рухам. У яго бываюць сучасныя беларускія паэты, як Каратынскі, Вярыга-Дарэўскі і др.; з ім у блізкіх зносінах знаходзіцца Сыракомля (Кандратовіч)— паэт па мове польскі, але з душой чыста беларускай, гарачы абаронца ў польскай прэсе беларускіх літэратурных пачынаньняў Марцінкевіча. Урэшце, для яго піша музыку да „Сялянскі“ найвялікшы кампазытар зямлі нашае, Станіслаў Манюшка, які, хоць сын Беларусі, залічаў сябе аднак да палякоў і сваей творчасьцяй, узгадаванай на ўлоньні беларускае прыроды, вялікую славу прыдбаў Польшчы... Бо-ж для тагочаснае *дэмакратыі* справа прабуджэньня беларускае сялянскае масы была таксама блізкай і роднай, як і сяньня яна блізка і родна ўсім тым, што найвялікшы ідэал бачаць у *вызваленьні чалавека* ад матэрыяльнага і духовага рабства.

Нішто ў гісторы не праходзе бяз сьледу. Не прайшла бяз уплыву на патомныя пакаленьні і праца Вінцука Дунін-Марцінкевіча. На яго кніжачках цэлыя масы беларусаў вучыліся чытаць пабеларуску. Яго „Гапон“ не аднаго падбіў пробаваць насьледаваць Марцінкевіча, а адзін з выдатнейшых паэтаў нашых дзён, Алесь Гарун, сам прызнаваўся, што пачаў пісаць вершы пабеларуску, захапіўшыся прыпадкова напатканай абдзертай, упэцканай кніжачкай, якая аказалася старым выданьнем „Гапона“.

Многа даў Марцінкевіч для сваей сучаснасьці, шмат разьвіў і ўзбагаціў літаратурную мову беларускую і гэты свой багаты скарб пераказаў нам. І мы, патомныя, не закапалі гэты скарб у зямлю, а пабудавалі з яго ўсю веліч нашае новае літэратуры Адраджэньня.

Хай-жа нашае грамадзянства добрым словам памяне памяць Вінцука Дунін-Марцінкевіча, бо-ж ён запраўды добра заслужыўся свайму народу.

**Ант. Навіна.**

---

# Аб чым пішуць.

**Урад Б.Н.Р. і Літва.**

На нашы заметкі аб гвалтах, учыненых урадам Літвы над ковенскімі беларусамі, згуртаванымі навакол ураду Б.Н.Р., адгукнулася ў перадавіцы ў № 6 „Krynica“.

Газэта падае перадусім гісторыю стварэньня гэнага ўраду:

Урад Б.Н.Р. азначае ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. А пачатак яго такі. У 1917 г. у Менску ў сьнежні месяцы адбыўся ўсебеларускі зьезд. Зьезд гэты быў дужа мнагалюдны, бо зьехалася на яго 1.167 дэлегатаў ад розных слаёў беларускага жыхарства і з розных куткоў Беларусі. Зьезд абвясьціў Беларусь Народнай Рэспублікай, выбраў спасярод сябе Раду Рэспублікі і перадаў ёй усе правы беларускага народу.

Рада Беларускай Рэспублікі далей разьвівала думкі зьезду. Яна 25/III 1918 г. аб Беларусі яшчэ выразьней высказалася, бо абвясьціла яе рэспублікай незалежнай, самастойнай і непадзельнай. Гэта Рада арганізавала ўрад, каторы і зваўся Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, а каротка—Б.Н.Р.

На чале ўраду БНР сьпярша стаяў Антон Луцкевіч, а па ім В. Ластоўскі.

Дабіцца таго, чаго жадаў Зьезд, а пасьля Рада Рэспублікі, гэта знача—незалежнасьці Беларусі, было зусім немагчыма. За Беларусь разгарэлася вайна між бальшавіцкай Рэспублікай і Польшчай. Беларусь ня мела столькі сілы, каб магла зарганізаваць сваё войска і каб магла на сваіх землях збудаваць незалежную рэспубліку, баронячы яе ад суседзяў.

Бачучы гэта ўрад БНР з В. Ластоўскім на чале, пад канец 1919 г. ўцёк у Літву. 11 лістапада 1920 г. літоўскі ўрад афіцыяльна прызнаў урад БНР у асобе В. Ласроўскага і даў яму прыпынак у Коўні.

Як-жа ўлажыліся адносіны ўраду Б.Н.Р. з Літвой і яе ўрадам?

— Як-раз у гэты час прыпадае самы разгар літоўскага змаганьня за Вільню. Ліга Народаў прапанавала зрабіць плебісцыт у Віленшчыне, гэта знача—прапанавала запытацца ў самой люднасьці, куды яна хоча належыць: да Літвы, ці да Польшчы.

Між урадам Літвы і ўрадам БНР наступіў дагавор, на моцы каторага беларусы Віленшчыны павінны былі трымаць за Літвой, а Літва ўзамен за гэта прыабяцала даць у Віленшчыне беларускім землям аўтаномію, з тым аднак, што калі Беларусь паўстане на цьвёрдыя ногі і будзе мець свой урад, тады ўрад літоўскі і беларускі, што да граніц і агулам што да беларуска-літоўскіх адносін, між сабой дагаворацца ўжо аканчальна.

Тымчасам, як кажуць, чалавек страляе, а Бог кулі носіць. Літве разам з урадам БНР дабіцца сваіх мэтаў дагэтуль не ўдалося. Віленшчына, а з ёй і ўся Заходняя Беларусь, як ведаем, падпала пад Польшчу. З Беларусі Усходняй стварылася „Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка“.

Урад БНР, ужо на чале з А. Цьвікевічам у Коўні, пратрываўшы аж да астатніх часоў, 10

астацца назаўсёды акупаванай французамі. Нямецкі ўрад гатовы ўладзіць усе свае нарушэньні Трактату, калі яны будуць ясна паказаны камісіяй, але і саюзьнікі павінны таксама шанаваць Трактат. Але вось, на выразнае і законнае запытаньне нямецкага ўраду: ці пасьля спыненьня немцамі ўсіх даведзеных камісіяй нарушэньняў імі Трактату Кельнскі абшар будзе ачышчаны ад акупацыі?—францускі прэм'ер адказу ня даў. З гэтага ясна відаць, што акупацыя застаецца дзеля чагось іншага. У такім разе Нямеччына адмовіцца ад супрацоўніцтва з Францыяй у справе яе бясьпечнасьці.

### Сэнсацыйная афэра братоў Барматаў.

Ужо больш за 2 месяцы ўся нямецкая апінія занята сэнсацыйным працэсам банкіраў братоў Барматаў. У сувязі з галоснай справай краху гэтага вялікага банку ў Бэрліне—якога дырэктары адданы пад суд, выкрыліся вялізарныя надужыцьці найвышэйшых урадоўцаў з дзяржаўным крэдытам. Сьледзтва выкрыла вялікае множства ўцягнутых у банкаўскую афэру Барматаў асоб, займаўшых найвышэйшыя становішчы. Скампрамітаваны апублікаванымі дакумэнтамі ня толькі міністры, якія атрымлівалі за прывілеі для банку Барматаў у дзяржаўным скарбе—вялікія грошы і „падарункі", але нават сам былы канцлер Нямеччыны Баўэр (сацыял-дэмакрат), як піша карэспандэнт „Сегодня", атрымліваў ад фірмы Барматаў што месячна „пэнсію" (150 гульдэнаў) ды, апроч таго, „пасобіе" ў суме 2.000 даляраў. Цяпер сацыял-дэмакратычная партыя патрэбавала, каб Баўэр зрокся мандату ў парлямант, што той і зрабіў.

Скампрамітаваны быццам нават сам прэзыдэнт рэспублікі Эбэрт, якога жонка ў часе гвалтоўнага спадку маркі атрымлівала харчовыя прадукты ад тэй-жа фірмы.

За ўсе гэтыя „ласкі" высокія ўрадоўцы стараліся аб найвялікшых крэдытах у дзяржаўным Банку для фірмы, якая мела вялікае множства разных прадпрыемстваў — заводаў і фабрык, але палова з іх існавала... на паперы—у „справаздачах" акцыянерам.

Зрокшыся (па трэбаваньню партыі) свайго мандату былы рэйхсканцлер (прэм'ер) Нямеччыны Баўэр прыцягнуты пракурорам да судовай адказнасьці. Яму закідаецца крэдытаваньне з дзяржаўнага скарбу партыйнай касы сацыял-дэмакратаў, а таксама выдача Барматам сэкрэтных фінансава-эканамічных інфармацыяў, дзякуючы якім іхні банк мог вельмі выгадна спэкуляваць на валюце ў часе інфляцыі. Яшчэ больш скампрамітаваным аказаўся другі міністар Гэфле (поштаў і тэлеграфу), які таксама, але ўжо дзеля асабістай карысьці, памагаў банку Барматаў спэкуляваць і атрымліваць крэдыты з дзяржаўнага банку. Пасьля допросу ў сьледчага Гэфле арыштавалі.

### Сун-Ят-Сэн.

Вестка аб сьмерці знамянітага кітайскага рэвалюцыянэра-рэспубліканца і „незалежніка", доктара Сун-Ят-Сэна, пацьвярдзілася. Ня гледзячы на забарону дактароў, ён прыехаў у Пэкін на агульна-кітайскую нацыянальную канфэрэнцыю 24 студня і ў той-жа дзень памер—ад сваей старой хваробы—рака.

Сун-Ят-Сэн — найбольш папулярная асоба ў Кітаі — запраўдны агульна-нацыянальны герой, сымвал новага рэспубліканскага, усенароднага Кітаю,—нацыянальнага адраджэньня і вызваленьня кітайскага народу з-пад укрытай, але тым ня менш цяжкай няволі ў эўрапэйцаў...

30 гадоў назад Сун-Ят-Сэн выступіў на барацьбу з манархіяй—тады, калі яшчэ аб рэспубліцы ў Кітаі сьмешна было нават лятуцець... Сун-Ят-Сэн, атрымаўшы ў Эўропе добрую адукацыю, пачаў перад усім гатаваць сярод сваіх чысьленых і ўплывовых прыяцеляў у Эўропе і Амэрыцы кадры сымпатыкаў для сваей думкі аб адраджэньні і вызваленьні кітайскага народу з-пад фэадальна-манархічнай улады. За-граніцай ён стварыў групу рэвалюцыянэраў, займаўшыхся агітацыяй і зьбіраньнем грошаў на барацьбу ў краю — проці Манджурскай дынастыі і яе мандарынаў. Рад няўдачных войнаў вельмі паглыбіў і аблягчыў гэтую рэвалюцыйную агітацыю, і рэвалюцыйны рух урэшце завяршыўся вялікай Кітайскай Рэвалюцыяй, якая палажыла канец ня толькі дынастыі, але і манархіі.

Сун-Ят-Сэн тады якраз асабіста арыштаваў апошняга кітайскага імпэратара, і — быў першым прэзыдэнтам Кітайскага Рэспублікі.

Дзіўна, чамусь ён зараз-жа ўступіў гэтую годнасьць свайму прыяцелю і супрацоўніку—Юан-Шы-Каю, а сам... на 2 гады зусім адыйшоў ад усякай працы.. Кажуць, што ён—за гэтую адступку атрымаў ад Юан-Шы-Кая 1 міліён даляраў, але, можа, гэта няпраўда. Хутчэй натура гэтага агнёвага рэвалюцыйнага-барацьбіта не пераносіла супакою,—пладоў і лаўраў перамогі, а шукала далейшай барацьбы. Гэта і спраўдзілася ў далейшым. Праз 2 гады Сун-Ят Сэн — ужо ў межах Рэспублікі—знаходзе ці стварае новы рэвалюцыйны фронт, стануўшы на чале вызвольнага ці сэпаратыстычнага руху ў Паўдзённым Кітаю проці Пэкінскага цэнтралістычнага ўраду. У 1917 гэты рух дасягае мэты, і Сун-Ят-Сэн робіцца першым Прэзыдэнтам Паўдзённа-Кітайскай Рэспублікі з сталіцай у Кантоне.

Але і на гэтай перамозе і на гэтым становішчы ня спынілася пламенная энэргія прыраджонага рэвалюцыянэра—барацьбіта за народнае вызваленьне. Вырашаўшы вялікія палітычныя задачы, зваліўшы вялізарнага паразіта-фэадальную манархію, зьбіўшы зялезныя — цэнтралістычныя ланцугі, перашкаджаўшыя вольнаму разьвіцьцю і арганічнай лучнасьці аўтаномных часьцін Кітаю, ён—пад уплывам лёзунгаў і асабістых зносінаў з дзеячамі сацыяльнай рэвалюцыі ў Расеі—захопліваецца вялікай ідэяй сацыяльнага вызваленьня народных масаў. Пачалася вялікая сацыяльная вайна ў краю, якая яшчэ трывае дагэтуль. І тут сьпярша Сун-Ят-Сэн меў вялікі пасьпех. Але хутка яму самому прыйшлося ўцякаць у Японію.

У апошняй барацьбе, якая ідзе ў нашыя часы, дзе мамэнты палітычны (барацьба аўтаномных правінцыяў з цэнтральным урадам) зьвязываюцца з мамэнтамі-сацыяльнымі, Сун-Ят-Сэн адразу прыняў вельмі актыўнае ўчасьце, стануўшы на чале аўтанамічнага руху проці пэкінскага ўраду.

Апошні лёзунг вялікага нацыянальнага героя, за які ён вёў барацьбу ў цесным саюзе з бальшавікамі, гэта—вызваленьне Кітаю ад эўрапэйскай няволі. „Кітай—для Кітайцаў!" — вось у чым зыйшліся цяпер усе запраўдныя патрэбы ў краю і ўсе запраўдныя прыяцелі кітайскага народу па-за краем. І вось гэты апошні свой лёзунг вялікі сын кітайскага народу пакінуў, як тэстамант, свайму народу...

Кожны ведае, што гэты зусім законны і натуральны для кожнага краю лёзунг вызваленьня можа яшчэ каштаваць вялікаму, працавітаму і спакойнаму народу вялікіх ахвяраў і, можа, вялікай крывавай вайны.. Бо Эўропа і Амэрыка ня хочуць прызнаць гэтай запраўднай сувэрэннасьці для Кітаю...

Саюз з Расеяй, а мо' і з Японіяй, а мо' — і з Нямеччынай!—вось, як можна думаць, шлях вялікага сусьветнага значэньня,—шлях, па якому Кітай найхутчэй дайдзе да зьдзейсьненьня вялікага тэстаманту свайго толькі — што памершага вялікага сына — вечнага рэвалюцыянэра Сун-Ят-Сэна.

**М.**

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### З польска-радавага пагранічча.

Пад Стоўпцамі некалькі ўзброеных у расейскія вінтоўкі бандытаў напалі на памоцніка машыніста, якога абрабавалі, а пасьля адыйшлі ў напрамку Баранавіч, забіўшы па дарозе жыхара вёскі Мікалаеўшчыны, Семянюка.

---

Начальнік атраду К.О.Р. у мясцовасьці Галубіч (у Віленшчыне) зьвярнуўся да камандзіра радавай пагранічнай варты з дамаганьнем вярнуць захопленага ў часе абходу польскага жаўнера. Радавы камандзір згадзіўся, але зажадаў за яго 2-х схопленых палякамі сваіх жаўнераў.

---

Атрымаўшы вестку, што з-за кардону на адрэзку Навагрудзкага ваяводзтва перайшла значная банда, якая, як выдавалася паводле напрамку яе руху, манілася напасьці на маёнтак Смолічы, на яе спатканьне выйшаў атрад К.О.Р. Узьнялася бітва, у часе якой ранены адзін жаўнер з польскага боку. Страты банды, якая вярнулася за кардон, няведамы.

---

12 га лютага на патруль К.О.Р. у Дунілавіцкім павеце ў лесе напаў атрад дывэрсыйнай банды—з 6—8 асоб. Патруль адказаў агнём карабіна, завязалася гарачая бітва, у якой дывэрсанты карысталіся ручнымі гранатамі. Урэшце, яны адыйшлі назад за кардон.

Dz. Wil.

---

„Dz. Wil." паведамляе, што паліцыя выкрыла ў пагранічным пасе ў Навагрудчыне новую добра наладжаную шпіёнскую арганізацыю, меўшую вялікія грошы і працаваўшую пры помачы „пераходжых работнікаў (?), падарожных (?) і купцоў".

### Амэрыканская пазыка Польшчы.

Газэты паведамілі, што 14 лютага падпісана амэрыканская пазыка Польшчы на 35 міліёнаў даляраў.

## Заграніцай.

### Прызнаньне ССРР Амэрыкай.

Амэрыканскія карэспандэнты радавых газэт пішуць, што прэзыдэнт Амэрыкі Кулідж прынцыпова ўжо пастанавіў прызнаць фармальна ССРР.

У сакавіку прэзыдэнт распачне па ўсім краю рад публічных мітынгаў, на якіх будзе тлумачыць амэрыканскаму народу конечнасьць запрасіць ССРР і Нямеччыну на будучую сусьветную канфэнцыю ў справе разбраеньня.

### Аэрапляны для ССРР.

З Рыму паведамляюць, што Радавы ўрад заказаў 250 новых аэрапланаў на краёвых фабрыках і столькі-ж заграчічным фірмам. Аэрапляны павінны быць гатовы да траўня (мая).

### 7 ўгодкі стварэньня чырвонай арміі.

У Маскве і па ўсяму ССРР рыхтуюцца да ўрачыстага сьвяткаваньня 7-ых угодкаў існаваньня чырвонае арміі, якое адбудзецца 21—23 лютага.

### Пятлюра ў Румыніі.

Радавая прэса цьвердзіць, што Пятлюра пераехаў у Румынію, дзе падрыхтоўвае „дывэрзыйныя банды" для нападаў на бэсарабскай граніцы. Пятлюра і румынскі ўрад пярэчаць гэтаму.

### „Вайна Амэрыкі з Японіяй—магчыма".

Нямецкае агенства Вольфа падало сэнсацыйную вестку аб тым, быццам амэрыканскі адмірал Брэндлі заявіў у Сан-Францыско, што—з прычыны ўсё ўзрастаючай канкурэнцыі Японі з Амэрыкай — вайна між імі можа лічыцца ў будучыне магчымай.

### Затапленьне браняносца.

Згодна з Вашынгтонскай умовай, Японія затаніла ў акіяне свой дрэдноўт „Тоза".

### Крывавыя сутычкі ў Марсэлі.

У Марсэлі (Францыя) адбыліся крывавыя сутычкі паліцыі з камуністамі.

### Самагубства гішпанскага „дырэктара".

Генарал Дабан, сябра дырэкторыі генарала Прыма дэ Рывэры, закончыў жыцьцё самагубствам

### Урадавы крызіс у Партугаліі.

Партугальскі парлямант выразіў недаверые ўраду, які дзеля гэтага падаўся ў адстаўку.

### Грэцка-югаслаўскі саюз.

З Белграду пішуць, што хутка пачнуцца перагаворы аб утварэньні саюзу між Грэцыяй і Югаславіяй.

### Мабілізацыя ў Турцыі.

Грэцкі ўрад даведаўся, быццам Туркі робяць эвакуацыю Адрыянопаля і мабілізуюць запасных 1920, 1921 і 1922 гадоў.

### Новы ўрад у Прусіі.

Урадовы крызіс у Прусіі скончыўся. Пасьля некалькіх няўдачных спробаў з радам кандыдатаў Пруські ўрад стварыў былы рэйхсканцлер (прэм'ер усей нямецкай рэспублікі) Маркс, прадстаўнік партыі цэнтру.

Габінэт будзе складзены з цэнтру і дэмакратаў, апроч аднаго сацыял-дэмакрата Сэвэрынга, які астанецца мін. унутраных спраў. За гэта ўрад будуць падтрымліваць і сацыял-дэмакраты.

### Скандалы ў чэшскім парляманце.

Учасе дыскусіі ў справе ўзросту дарагоўлі ўзьняўся вялікі скандал, які трываў шмат часу. Паліцыі, якая была паклікана да Сойму, прыходзілася, па загаду старшыні, некалькі разоў прымусам вывадзіць дэпутатаў, у тым ліку некалькі камуністаў.

Гэты скандал у Сойме — водгук таго народнага выбуху з прычыны дарагоўлі, які толькі што перад тым меў мейсца ў Празе і які каштаваў некалькі ахвяраў спасярод народу і паліцыі. Такія-ж „галодныя бунты", ці дэманстрацыі адбыліся і ў іншых местах Чэхаславакіі.

### Б. Міністар Пурыцкіс апраўданы.

Галосны працэс б. літоўск. міністра заграчічных спраў Пурыцкіса, якому закідаліся розныя карысныя для яго кішані надужыцьці права дыпляматычных перасылак у ССРР і Нямеччыну, і адтуль да краю (кантрабанда сахарыну, какаіну і каштоўнасьці) скончыўся 10 лютага. Пурыцкіс і ўсе іншыя падсудныя ў гэтай справе апраўданы.

### Даверые ўраду Петруліса.

10 лютага Сойм 40 галасамі проці 28 выразіў даверые ўраду Петруліса.

### Новы прэзыдэнт Фінляндзкай рэспублікі.

Прэзыдэнтам Фінляндзкай Рэспублікі выбраны кандыдат партыі земляробаў (?) Рыляндэр, былы губэрнатар у Борго. Кандыдат прагрэсыўнай (?) партыі праваліўся.

---

# ХРОНІКА.

**АДОЗВА.** Таварыства Беларускае Школы ў Навагрудку ладзіць у нядзелю 1-га сакавіка (1/III) г. г. **дзень беларускае школы**, на які зложыцца літэратурна-вокальная раніца і вулічны збор ахвяр.

**Грамадзяне!** Таварыства ў нязьмерна — цяжкіх матар'яльных варунках вядзе сваю працу помачы роднай асьвеце.

Хто за лепшую будучыну Бацькаўшчыны, хто хоча відзець Беларускі Народ перамогшым усе перашкоды на дарозе свайго нацыянальнага адраджэньня,—павінен нясьці ахвяры на родную асьвету!

Ахвяруй, што можаш, на асьвету ў Навагрудчыне!

Урад Т-ва Белар. школы
ў Навагрудчыне.

